Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 19 жніўня 1933 г.

№ 17.

Год 1-шы

# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

выходзіць двойчы ў месяц.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

**Заўтра, 20-га жніўня, мінае 14 гадоў ад дня перадчаснае сьмерці Бацькі Адраджэньня Беларускага Народу**

**с. п. ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА.**

Памяніце Яго, Беларусы, у душах вашых!

## Ушануйма памяць Бацькі Адраджэньня!

*(У 14-ыя ўгодкі сьмерці Ів. Луцкевіча).*

Кожны народ мае сваю гісторыю, сваю славу і веліч.

Кожны народ мае сваіх вялікіх сыноў, якія творчасьцю свайго духа прыдбалі славу або карысьць сваёй Айчыне.

Кожны народ горды такімі сынамі, што патрапілі сваім інтэлектам часамі больш зрабіць, чым высілкі ўсяго грамадзянства.

Дык зусім зразумела і заслужана, калі народ, каб захаваць сьветлую памяць такіх сваіх сыноў, стаўляе ім памятнікі, акружае іх імя і вынікі іх працы шчырай апекай і глыбокай пашанай.

Мы, беларусы, у гісторыі нашага Адраджэньня маем шмат слаўных нябошчыкаў, памяць якіх, нажаль, з прычыны стварыўшыхся абставінаў нашага сучаснага грамадзкага жыцьця, ня можам ушанаваць так, як таго вымагае іх самаахвярная праца для нашага Народу.

Але ці запраўды ўжо так нічагусенькі ня можам у гэтым кірунку зрабіць?

Вось хоць бы тое:

У будучым 1934 г. прыпадаюць 15-ыя ўгодкі сьмерці Бацькі беларускага Адраджэньня сьв. п. Івана Луцкевіча.

Ці-ж беларускае грамадзянства не змагло-б, агульным высілкам, дапяць таго, каб цела гэтага самаахвярнага змагара за справу Адраджэньня нашага Народу, гэтага будзіцеля і вартаўніка нашага народнага духа, урэшце знайшло супачынак у роднай і так каханай ім зямлі?

Якая-ж ганьба і сорам нам будзе, калі і 15-ыя ўгодкі сьмерці цела Ягонае і далей ляжаць будзе на чужой зямлі, дзесь між гор далёкага Закапанага!...

Не, мы ня можам дапусьціць да гэтага! Да 15 угодкаў цела Ягонае мусіць быць перанесена ў Вільню.

На гэта ня трэба ўжо так многа коштаў, і патрэбныя грошы, паміма ўсіх труднасьцяў, мусім сабраць!

Думаю, што імя сьв. п. Івана Луцкевіча, паміма палітычнай нязгоды, пануючай у сучасным жыцьці нашага грамадзянства, дорага кожнаму шчыраму і сьвядомаму беларусу.

Дык хай пастравіць сваім абавязкам кожны сьвядомы грамадзянін даць пасільную дабравольную ахвяру на гэту мэту. Кожная ўстанова ці арганізацыя павінна распачаць зьбіраньне ахвяр на гэту мэту, і гэтыя грошы, патрэбныя на пасьмертную падарожу нашага Вялікага Барацьбіта і Адраджэнца з далёкага места яго цяперашняга прытулку ў родную краіну, зьбяруцца.

Думаю, што гэтая думка мая, кіненая ў 14-ыя ўгодкі сьмерці Ів. Луцкевіча (20-га жніўня), знойдзе водклік сярод нашага грамадзянства, і ўсіх заклікаю і прашу забраць голас на шпальтах прэсы ў гэтай справе.

**М. Машара.**

**Ад Рэдакцыі.** Зьмяшчаючы гэты заклік нашага выдатнага поэты, які выяўляе сваім

выступленьнем вялікую духовую чуткасьць, горача падтрымліваем ягоную думку. Сцьвярджаем толькі, што перавоз у Вільню цела сьв. пам. Івана Луцкевіча магчымы будзе толькі тады, калі ўсё беларускае грамадзянства прыме ў гэтым акце чыннае ўчасьце.

## „Лішнія" людзі.

Асобы, якія сёлета ўлетку пабывалі ў беларускіх вёсках, аднагалосна адзначаюць адно агульнае зьявішча вясковага жыцьця. Гэта—тое, што ўсюды па вёсках ёсьць многа людзей, якія навет у часе найгарачэйшае работы ў полі сідзяць дома і абсалютна ня маюць што рабіць: для іх няма працы, няма занятку.

Зьявішча гэтае для нас зусім зразумелае. На вёсцы з году ў год народу прыбывае, але сялянскія гаспадаркі не растуць, а хіба меншаюць, дробяцца ад падзелаў між сябрамі сямей. У панскіх дварох, якія чыста пабанкрутавалі, праца з кожным годам абмежываецца: менш зямлі абсяваюць. У лясной гаспадарцы—застой, дык і ў гэтай галіне гаспадарчага жыцьця краю прылажыць рук сваіх да працы нельга. Эміграцыя-ж да прамысловых цэнтраў, да местаў наагул ня можа адбывацца з прычыны шалеючага там крызісу, які выкідае на брук соткі тысячаў безработных. Таксама спынілася эміграцыя заграніцу — за акіян, у Амэрыку і іншыя краіны, бо ўсюды пануе крызіс.

Такое палажэньне ня хутка зьменіцца. З гэтым трэба лічыцца. І тыя „лішнія" людзі, для якіх у куртатых сялянскіх гаспадарках месца ўжо няма, павінны выкарыстаць свае сілы, калі не ў фізычнай працы, ды у іншай. Мы і хочам паказаць той шлях, на якім „лішнія" людзі павінны паслужыць і сабе, і—свайму народу.

Перад усім кожны добра граматны вясковец-беларус можа заняцца навучаньнем дзетак беларускіх чытаць і пісаць у сваей роднай мове. Хто вучыць за-раз менш за 10 дзяцей, таго нельга абвінавачваць у вядзеньні „тайнае школы", бо гэта ня лічыцца пазакону школай. А мы перакананы, што за такую навуку бацькі дзяцей, якіх у дзяржаўных польскіх школах не навучаюць граматы ў роднай мове, за навуку апошняе нечым ды аддзякуюць.

Другое — гэта праца над пашырэньнем сярод вяскоўцаў кніжкі ў роднай мове. Чалавек, ня зьвязаны штодзеннай фізычнай працай ад раньня да ночы, можа заклясьці ў сваей хаце беларускую бібліятэчку-чытальню, якую яму ахвотне дасьць вясьці ці то Таварыства Беларускае Асьветы (ТБА), ці ТБШ, ці іншая культурная арганізацыя. І хаця кніжкі ў такіх бібліятэчках-чытальнях даюцца да чытаньня дарма, усё-ж можна прымаць ад чытаючых дабравольныя ахвяры —ці то грашмі, ці прадуктамі, з каторых — па паразуменьню з Цэнтрам—можа быць выдзелена і нейкая плата кіраўніку. Дый пры такой культурна-прасьветнай пляцоўцы павінен стварыцца гурток арганізацыі, якая дала кніжкі, а тады можна ўжо лёгка наладзіць і ўсякую іншую беларускую грамадзкую працу (ладзіць лекцыі, спэктаклі, вечарыны, з'арганізаваць хор і г. п.). Можна такжа заняцца зборам падпіскі на „Родны Край", і сабраныя грошы Рэдакцыя ахвотна пакіне там-жа на вёсцы людзям, якія будуць пасылаць карэспандэнцыі ў газэту. І гэтак далей.

Але ёсьць яшчэ адна галіна працы, у якой маюць шырокі пастор вясковыя „лішнія" людзі. Гэта—каапэрацыя. Хто хоць крыху знаёмы з ёй, той лёгка можа з'арганізаваць каапэратыў і працаваць у ім, дастаўляючы вёсцы таньней і ў лепшым гатунку патрэбныя для яе тавары і маючы нейкі заработак і для сябе. На вёсцы цяпер кожын злот — вялікія грошы, і які-б малы ні быў гэны заработак, ён будзе мець вялікую вагу для „лішніх" людзей.

Галоўнае ж — тое, што „лішнія" людзі перастануць быць на вёсцы лішнімі. Наадварот: яны стануцца самымі карыснымі грамадзянамі нашае вёскі і, падымаючы культурны ровень жыхароў яе ды нясучы ў сялянскую гушчу ідэю нацыянальнага адраджэньня нашага народу, дапамогуць перагрываць сучаснае ліхалецьце і падгатаваць грунт дзеля лепшае будучыны.

## Бацькі!
## Навучайце дзяцей вашых чытаць і пісаць пабеларуску!

## Рэформа сэнату.

Пасьля даўгога перарыву ізноў у кіруючых палітычных колах Польшчы паднята справа перароблкі яе канстытуцыі. Новы праект рэформы канстытуцыі апрацаваны ў лоне ББ былым міністрам Царам, а на апошнім чарговым зьезьдзе легіёністаў старшыня ББ, былы прэм'ер Валеры Славэк, выкажыў галоўныя пункты праекту.

Апроч далейшага ўзмацненьня ўлады Прэзыдэнта, які мае мець яшчэ больш уплыву на ўладу заканадаўчую, чым цяпер, назначаючы цэлую трэціну сэнатараў, — на першым месцы канстытуцыі ставіцца цяпер грунтоўная рэформа сэнату. Сэнат, які дагэтуль іграў ролю як-быццам „аднае з камісіяў Сойму", цяпер мае быць з ім зусім раўнапраўны, ня гледзячы на тое, што складацца ён мае паводле зусім іншага прынцыпу, чым Сойм. Сойм мае, як і дагэтуль, выбірацца шляхам агульнага, роўнага і т. д. галасаваньня, гэта значыць—усім народам. Сэнат—наадварот — мае выбірацца толькі, як казаў палк. Славэк,

„перадавой і кіруючай групай“ народу, а гэта значыць тут — тольні тымі „выбранцамі“, якія атрымалі адзначэньні (ордэны) „Віртуті Мілітарі“ і „Крыж Незалежнасьці“... Такім чынам, новы Сэнат мае выбірацца ў 2 трацінах свайго складу—пераважна ваеннымі людзьмі, якія адзначыліся ў дзеле абароны дзяржавы. Можна быць пэўным, што гэтыя „кавалеры ваенных ордэноў“ будуць выбіраць сэнатараў выключна спаміж сябе. А пасьля Сэнат мае ўжо сам выбіраць сабе выбаршчыкаў.

Проці праекту такое „ордынацыі“ для выбараў у Сэнат—высказалася ня толькі апазіцыя, але і некаторыя органы санацыйнае прэсы.

Дэмакратычная палітычная думка традыцыйна высказывалася заўсёды наагул проці другое заканадаўчае палаты, якой у Польшчы зьяўляецца Сэнат. Але пры існаваньні апошняга, зразумела, яна павінна выступіць проці ўсялякага вонкавага цэнзу пры выбарах у гэтую „вышэйшую“ палату, дапускаючы хіба толькі вышэйшы цэнз веку і эдукацыі. Што-ж датычыць такога запраўды спэцыяльнага і штучнага цэнзу для заканадаўцы, як яго—на сваім мейсцы высока цэнныя й паважаныя—кваліфікацыі ваеннае адвагі і ваенных заслуг, дык ня толькі з боку дэмакратычнае думкі, але проста з гледзішча дзяржаўна-будаўнічае тэхнікі гэткі „вайсковы цэнз“ у палітыцы трэба прызнаць абсалютна неадпаведным.

Ня кажам ужо аб тым, што гэткі „ордэровы цэнз“ цалком выключае магчымасьць беларусу наагул па пасьці ў новы Сэнат, зложаны з чыста польскае „эліты“ (выбранцаў).

———

# Крызіс міжнародавага соцыялізму.

*(З прычыны пагрозы расколу сярод француcкіх соцыялістаў).*

На апошнім кангрэсе францускіх соцыялістаў выявілася такое рэзкае разыходжаньне паглядаў паасобных групаў партыі на найгалаўнейшыя пытаньні праграмы і тактыкі, што амаль не дайшло да адкрытага расколу і падзелу партыі. Рэзка адасобіліся тры галоўныя групы. Левая група (з ведамым Блюмам на чале, — непрымірыма проці - буржуазная і пацыфістычная) стаіць цьвёрда на старым становішчы міжнародавага аб'яднаньня працоўных. Проці яе страшэнна рэзка выступіла правая група „маладых“, якая лічыць гэты міжнародавы характар соцыялізму яго першародным грэхам. Правадыры гэтае групы высунулі вельмі рэзка плятформу „соцыялізму арганізаванага ў межах нацыяльнае дзяржавы на падставе аўтарытэту жалезнае ўлады і дысцыпліны“, адкрыта прызнаючы, што гэткі „нацыянальны соцыялізм“ блізу нічым ня мае адрозьнівацца ад „нармальнага“ фашызму!... З вялікім трудом сярэдняй групе на чале з Вандэрвэльдэ (Бэльгія) ўдалося ўтрымаць дачасу „адзінства“ партыі і недапусьціць да фармальнага расколу яе.

Характэрнае для нашых часоў гэтае занепаданьне інтэрнацыянальнага соцыялізму. У Англіі партыю здрадзілі блізу ўсе яе правадыры—на чале з Мак-Дональдам. У Італіі яшчэ раней яе старая партыя была разбіта і блізу фізычна зьнішчана Мусоліні. У апошні час з неверыгодвай хуткасьцяй, блізу без

---

**М. Машара.**

# Вось тут і зразумей...

**Драматычны абразок у 2-х адслонах**

(Тэма запазычана з гутаркі з каморнікам *Ю.С.*)

(Працяг).

АДСЛОНА 2-я.

Сцэна тая самая. Раніца другога дня.

ЗЬЯВА 1-я.

### Каморнік адзін.

**Каморнік**—(выходзячы на ганак, а з ганку на панадворак. Прыбраны да мярнічае працы. Сам да сябе). Здаецца, я сёньня, пасьля ўчарашняе сямейнае ідыльлі Антося, крыху заспаў? Але пагода слаўная... Трэба заклікаць людзей ды рухацца да працы, а то я гэтак і да Каляд ня скончу памеру. (Зьвяртаючыся да хаты): Тумаш! Тумаш!... Хадзі, брат, сюды! (Сам да сябе:) Цікава, дзе Антось? Пэўне яшчэ сьпіць і бачыць помсту над жонкай. Трэба было-б разбудзіць, бо без яго нязручна будзе ў полі (Выходзіць Тумаш).

ЗЬЯВА 2-я.

### Каморнік і Тумаш.

**Тумаш**—(стоючы на ганку:) Пан каморнік мяне клікаў?

**Каморнік** — Але, братка, трэба зьбірацца да працы. Годзе ўжо гэтых вашых кірмашовых гулянак. Зьбірай, брат, людзей, бярэце прылады, ды рушым на памер „Дубровы“. Толькі варушэцеся там хутчэй, бо сёньня і так заспалі.

**Тумаш**—Зараз, зараз, пане каморнік, там ужо пыталіся.

**Каморнік**—Ідзі, ідзі, брат, толькі хутчэй! (Тумаш выходзіць).

ЗЬЯВА 3-я.

### Каморнік і Солтыс.

**Солтыс**—(выходзячы з-за вугла Тумашовае хаты; на ім тое самае ўбраньне, што і ўчора. На грудзёх нейкая мядаль. Зьнімаючы шапку, да каморніка:) Добрае раніцы пану каморніку.

усялякае барацьбы і апору, была зьліквідавана слаўная нямецкая соцыял-дэмакратыя, заложаная асабіста творцамі т.-зв. „навуковага соцыялізму“, і такім чынам „здалася“ на ласку пераможцы—Гітлера галоўная крэпасьць II-га Інтэрнацыяналу.

Задзіўляе тая лёгкасьць і шпаркасьць, з якімі соцыялізм ня толькі пакараецца фашызму, але і ператвараецца ў фашызм. Успомнім толькі, што блізу ўсе правадыры сучаснага фашызму, усе дыктатары нашых дзён выйшлі з лона соцыялізму... Як бачым, ня робіць вынятку з гэтага „правіла“ і адзіная з вялікіх соцыялістычных партыяў Эўропы, уцалеўшая дагэтуль: партыя француская.

Гэты заняпад міжнароднага соцыялізму мае вялікае значэньне, як характэрная адзнака нашых часоў. Пачалася „новая эра“, для якой характэрнай рысай ёсьць аслабленьне міжнародавае солідарнасьці і, наадварот, узмацненьне, так сказаць, „нацыянальнае зачыненасьці“ вялікіх і меншых нацыянальна-гаспадарчых і дзяржаўна-палітычных аб'яднаньняў. Няўдачы ўсялякага роду міжнародавых канфэрэнцыяў—толькі праява гэтага агульнага руху. Гэты небясьпечны, рэакцыйны рух пагражае няўхільным завастрэньнем канкурэнцыі і варожасьці між дзяржавамі ды роўна няўхільна давядзе да новае военнае катастрофы.

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Дзьве ўтраты.** Блізу адначасна беларускае і літоўскае грамадзянства пад Польшчай панесла цяжкія утраты: у Горадні памер ведамы яшчэ з даваенных часоў беларускі дзеяч кс. Грынкевіч, а сьледам за ім зыйшоў з гэтага сьвету ў Вільні заслужаны літоўскі дзеяч кс. Краўляліс.

Хай лёгкая ім будзе родная зямелька!

**Пачатак навукі ў беларускіх гімназіях.** Нармальныя лекцыі пачынаюцца сёлета ў беларускіх гімназіях 21 жніўня ў 8 гадзін раніцы. Уступныя экзамены будуць адбывацца ад 21 да 25 жніўня.

**Малебны перад пачаткам навукі.** Перад пачаткам школьных заняткаў для вучняў белар. гімназіі (Белар. Філіі Дзярж. Гімназіі ім. Ю. Славацкага) у Вільні у нядзелю 20-га жніўня адбудзецца для праваслаўных малебен у Пятніцкай царкве, а для каталікоў — набажэнства ў касьцеле сьв. Мікалая.

**Інтэрнаты для вучняў і вучаніц беларускай гімназіі ў Вільні.** Інтэрнат для хлапцоў, які ў тыя гады існаваў пры гімназіі, будзе чынны і сёлета ў тым-жа памяшчэньні (Вострабрамская 9).

Інтэрнат Аб'яднаньня Беларускіх Жанчын для вучаніц перанесены на вул. Садовую 9, кв. 4 (пяць мінут ходу да гімназіі).

**„Летапіс ТБШ“.** Выйшаў з друку № 2 (Чэрвень—Ліпень) органу Таварыства Бела-

---

**Каморнік**—Добрае раніцы! Хоць ужо раніца, здаецца, мінула. Солтыс ужо, пэўне, не адзін пракос прайшоў? а мо' яшчэ спалі пасьля ўчарашняга?

**Солтыс**—Пан каморнік не згадаў, — ані тое, ані другое.

**Каморнік** — Чаму так? Дык што-ж вы рабілі?

**Солтыс**—А вось, бачыце, ад самага ўсходу сонца чакаў на вас, пане каморнік.

**Каморнік**—Чакалі на мяне?

**Солтыс**—Але... маю да пана каморніка вельмі пільную справу.

**Каморнік**—Справу?... Што-ж там за справа? Кажы хутчэй.

**Солтыс**—Вось сёньня, яшчэ на золаку, атрымаў я з гміны нейкі пакет (цярэбіць галаву). Ведаеце, пане каморнік, сам ужо даўно ня чытаю, ня бачу ды, прызнацца, і разумею кепска, асабліва пісанае. А пакет (дастае, гаворачы, з-за пазухі пакет) пэўне важны. Апячатаны сыргучом, і аддалі мне яго пад расьпіску. (Аддаючы:) Дык вось прачытайце, калі ласка, што тут? Мо' шараварка, або яшчэ якая „экстра“?

**Каморнік** — (бяручы пакет). Паглядзім, што тут за экстру Вам прыслалі! (Разглядаючы:) А праўда, адразу відаць, што рэч паважная. (Ламае пячаткі, вымае і пачынае чытаць. Солтыс з цікавасьцю ўзіраецца ў паперу праз плячо каморніка. Каморнік, прачытаўшы першыя радкі:) Што?!! (апускае рукі з паперай, стаіць нейкі час аслупеўшы. Потым праводзіць рукой па галаве)

**Солтыс**—(з трывогай:) Што такое, панок? Мо' што з суда, або ад земскага?

**Каморнік**—Гэ, брат! тут справа павmassжней усіх тваіх судоў і земскіх! (Іznoў чытае).

**Солтыс** — (З зьдзіўленьнем і трывогай:) Што вы, пане каморнік? Хіба жартуеце? Што ж яшчэ паважней можа быць?

**Каморнік** — (адрываючыся ад паперы) Вайна! Пэўне будзе, брат, вайна—абвешчана мабілізацыя.

**Солтыс**—(з нярухомым ад зьдзіўленьня паглядам, разьвёўшы шырака рукі:) Што вы кажаце? Якая вайна?! Якая білізацыя?!

**Каморнік**—А вось, братка, глядзі сам: чорным па беламу (падносіць паперу солтысу і чытае яму:) Па загаду яго імператарскага вялічаства, гасудара імператара, абвяшчаецца ўсім верна-падданым (у гэты час,

рускае Школы, значна багацейшы і сваім зьместам і абыймом за папярэдні. На-жаль, да грамадзянства ён не дайшоў з прычыны канфіскаты адміністрацыйнымі ўладамі.

**Водгук Грамады — у віленскім Акружным Судзе.** 7-га жнiўня віленскі Акружны Суд разглядаў справу рэдактара М. Сіняўскага, якога абвінавачываў п. Ярэміч у „oszczerstwie" з прычыны надрукаванага ў „Белар. Звоне" абвіненьня п. Ярэміча, што ён атрымліваў ад польскіх уладаў грошы на барацьбу з грамадаўскім рухам. Дзеля таго, што перад маршалкоўскім судом (у Сойме—дзеля спраў між паслямі) былы віленскі ваявода, а цяпер—маршалак Сэнату п. Рачкевіч запярэчыў вестцы „Бел. Звону", Суд ня мог ня даць веры п. Рачкевічу і засудзіў гр. Сіняўскага на 1 месяц арышту і 100 зл. штрафу, адначасна дароўваючы яму гэту кару на падставе амністыі,—з тым, каб прыгавор гэты быў надрукаваны на кошт гр. Сіняўскага ў „Słowie" і беларускіх часопісах у Вільні.

На судзе — у тэй самай салі, дзе адбываўся працэс Грамады, — на мамэнт як быццам ажылі падзеі сprад 5 — 6 гадоў. Сьведкі абароны гр. гр. Астроўскі і Луцкевіч нарысавалі абраз тэй барацьбы, якую п. п. Ярэміч, кс. Станкевіч і Рагуля вялі з Грамадой на страніцах сваей прэсы. Паміж іншым гр. Астроўскі адзначыў, што першыя весткі аб тым, што быццам Ярэміч браў на гэту барацьбу грошы ад ураду, падаў яму былы павадыр Незалежнай Партыі Хлопскай, ён-жа былы афіцэр 2-га аддзелу Генэральнага Штабу, пасол Воевудзкі. Гр. Луцкевіч на пытаньні адвакатаў паказаў, што аб гэтым у сваім часе шмат гаварылася ў беларускім грамадзянстве, і рэдакцыя „Бел. Звону", у якім сьведка быў супрацоўнікам, мела аб'ектыўныя падставы верыць у праўдзівасьць інфармацыі Воевудзкага. Гэтак орган п. Ярэміча „Сялянская Ніва" „расцьвіў" якраз у часе найвастрэйшага змаганьня ураду з Грамадай і „перацьвіў" ды зусім перастаў выхадзіць, калі Грамада была зьліквідавана. Сьведка адзначыў такжа, што п. Ярэміч быў у вельмі блізкіх адносінах з былым шэфам бясьпечнасьці, а пасьля віцэ-ваяводай, п. Кіртіклісам, а такжа з забітым у часе працэсу Грамады пракуратарам Гурыным ды з ведамым супрацоўнікам дэфэнзывы Валэйшай, які сядзіць у вастрозе за крымінальныя праступкі. Урэшце, сьведка прыпомніў, што на працэсе Грамады тры сьведкі з боку пракуратуры — шэф сьледчае паліцыі Васілеўскі, радца воевудзтва Александровіч ды Студніцкі — у сваіх паказаньнях проці Грамады пазываліся на „Сялянскую Ніву", а пракурор Раўзэ ў сваей прамове абвінавачываў яго, Луцкевіча, тэкстамі з „Сялянскае Нівы", якая ілжыва данасіла, быццам ён, Луцкевіч, падтрымліваў зносіны з бальшавіцкім камісарам Мясьніковым. Аб усім гэтым рэд. Сіняўскі ведаў, і гэта стварыла грунт дзеля веры ў праўдзівасьць закідаў, зробленых у „Бел. Звоне" п. Ярэмічу.

Ад імя п. Ярэміча выступаў на судзе адвакат Чэрніхов; рэд. Сіняўскага бараніла адвакатка Заштовт-Сукеньніцкая. Зацікаўленьне працэсам з боку беларускага грамадзянства было мінімальнае (прыйшлі ўсяго 3—4 асобы).

**Падзяка.** Дырэкцыя Беларускага Музэю імя Ів. Луцкевіча ў Вільні гэтым шляхам

---

з-за вугла Тумашовае хаты выходзяць Тумаш і Дудар з таўпой другіх працаўнікоў з мярнічымі прыладамі ў руках і перапыняюць чытаньне).

ЗЬЯВА 4-я.

**Тыя-ж, Тумаш, Дудар і таўпа працаўнікоў.**

**Тумаш**—Вось і мы, пане каморнік,—усе, як бачыце. Аднаго Антося не дабудзіліся,—сьпіць, як забіты. Я ўжо казаў Ганулі, каб яна яго вадой прачухала. Ды дзе там, ані туды тое, — баба пасьля ўчарашняга і глядзець на яго ня хоча! Я—кажа — у суд падам!—Я—кажа—разьвянчаюся з ім! — Вось —кажа—і пан каморнік казаў, што ён біць мяне ня мае права. Ды што казаць: адным словам — узьелася баба не нажарты. Я яе яшчэ такой і ня бачыў (бліжэй да каморніка). Ну, што, пане каморнік: рухаем да працы?

**Каморнік**—(Разглядаючы паперу:) Якая там, брат, праца: цяпер не да працы! Тут здарылася справа важней наших прац.

**Тумаш**—Чаму? што здарылася?

**Каморнік**—Пэўне будзе вайна з немцамі: абвешчана мабілізацыя (трывожныя міны і рухі ўсіх).

**Солтыс**—(да таўпы) Чулі?! па загаду вусудара ампіратара і ўсіх вернапраданых (з націскам) абвешчана вайна немцам і білізацыя!...

**Дудар**—Што такое—білізацыя? Якая білізацыя?

**Каморнік**—Гэта абвестка, якім галам трэ йсьці да войска, калі і дзе зьбірацца. (Паказывае паперы:) Вось тут адзначаны ўсе пакліканыя гады, а тут (паказывае ніжэй), што солтысу загадываецца ўсіх пакліканых даставіць у валасьць, на восьмую гадзіну сёньняшняга дня.

**Солтыс**—(прыбіраючы міну начальніка:) Чуеце?! Па загаду вусудара ампіратара, солтысу даставіць усіх пакліканых у валасьць, на восьмую гадзіну сёньняшняга дня,—разумееце?! Дык зьбірайцеся, хлопцы, бо не пасьпеем. (У таўпе рух).

**Дудар**—Як—усім?

**Солтыс**—А вось, аб гэтым даведайцеся ў пана каморніка: каму трэ, каму не (да каморніка). Вы, паночку, растлумачце ім, а я пайду загадываць (выходзіць).

(На сцэне рух, працаўнікі кідаюць пад сьцяну Тумашовае хаты мярнічыя прылады. Адны выходзяць, другія прыходзяць. Штось

выказвае сваю шчырую падзяку 1) грам. М. Маскаліку (Бэрлін) за 3 старыя друкі, 2) грам. Я. Драздовічу за драўляную табакерку з разьбой, 3) грам. К. Станішэўскай—за каменную сякерку і акамянеласьць, ахвяраваныя Музэю.

## На правінцыі.

**Дайце нам бібліатэчку!** (м. Рэчкі, Кураnецкай гм.). У нашым мястэчку, як і ў іншых вёсках, рабочых рук шмат; як завіхнёмся, дык усё хутка паробім, маем шмат вольнага часу, бо заработкаў нідзе няма. Але час праходзіць бяз ніякай карысьці, няма дзе дастаць кніжку, а свай газэты дык і ў вочы ня бачым. Аб тым, што робіцца на сьвеце, даведваемся з пераказаў іншых. Чулі мы, што ў іншых гмінах адчыняе бібліатэкі Таварыства Беларускае Асьветы, а каля нас дык нешта пра гэта ня чутно. А можа-б грамадзяне з Вільні зьвярнулі-б увагу і на наш куток ды адчынілі-б і ў нас бібліатэку. Ахвотнікаў да кніжкі ў нас шмат. Вось і можна-б было карысна правясьці вольны час.

Гр. С.

**Як мы жывем.** (в. Яцкава, Валожынскай гм.). Вёска наша вялікая, раскіданая па берагу Іслачы. Зямлі мала, ды й тая пясчаная. А заработкаў няма. Ось-жа і мусім як-небудзь кідацца, каб пражыць. Сенажацяў няма за што купляць, дык бяруць людзі на адработак. На балоце косяць людзі на трэцюю капу, а мурог дык навет на чацьвертую. Ахвотнікаў да такой працы колькі хочаш. Так і капаецца чалавек у балоце, нічога ня ведаючы аб тым, што робіцца на шырокім сьвеце. Моладзь наша горнецца да асьветы, але няма кніжак, газэт у роднай мове.

Тутэйшы.

# Палітычная хроніка.

**Савецка італьянскі трактат аб ненападаньні.** „Пакт аб узаемным ненападаньні" між Саветамі і Італіяй мае быць падпісаны ў Рыме ў бліжэйшыя дні.

**Грозныя забурэньні работнікаў у Страсбургу.** У сталіцы аднэй з двух адабраных назад Францыяй ад Нямеччыны правінцыяў (Эльзас-Лётарынгія) Страсбургу выбухла — на груньце канфлікту з працадаўцамі — забастоўка работнікаў, якая прыняла нязвычайна вострую форму. У выніку сутычак з паліцыяй — некалькі сотняў раненых і звыш дзесятку забітых з абодвух бакоў. Сярод арыштаваных — шмат камуністаў і прыбылых з Нямеччыны гітлераўцаў.

**Фашызм у Ірляндыі.** У Ірляндыі ўсцяж пробуе ўкараніцца фашызм нямецкага тыпу. Гуртуюцца „штурмовыя колёны"—ці банды—па Гітлеру, толькі ў сініх кашулях. Спробы выступленьня на парадзе ў гэтых днях скончыліся, аднак-жа, даволі няўдала: урад забараніў парад, а публіка пры гэтым даволі балюча пабіла фашыстаў.

**Гітлер падбівае Аўстрыю.** Гітлер вядзе пляновую акцыю, якая мае мэтай дапамагчы аўстрыяцкім нацыянал-соцыялістам апанаваць уладу, як гэта ўжо ўдалося зрабіць у Данцыгу (Гданску). А тады справа фактыч-

---

трывожна гутараць паміж сабой і пытаюцца ў каморніка).

ЗЬЯВА 5-я.

**Тыя-ж бяз Солтыса.**

**Дудар**—(да каморніка, кідаючы мярнічы флаг пад сьцяну). Паглядзеце, калі ласка, пане каморнік, ці мне трэба на гэту праклятую білізацыю?

**Каморнік**—А ў якім годзе вы радзіліся?

**Дудар**—(скрабучы галаву) А добра і ня ведаю... перайшоў у запас у шостым годзе.

**Каморнік**—(Зірнуўшы на паперу). Трэба, братка, трэба.

**Дудар**—Знача і Антосю так сама трэба! Мы з ім аднагодкі, — разам прызываліся, разам і служылі.

**Каморнік**—Ну, але... калі так, дык і яму трэба.

**Дудар**—А ён яшчэ сьпіць пасьля ўчарашняга кірмашу—сьпіць. як пшаніцу прадаўшы, і гора няма. Эх, ты, Антось, Антось! Добра, што ўчора, мы з ім хоць гульнулі, як трэба. Ведаеце, пане каморнік, як бы чуючы гэту біду,—мо' апошні раз, але гульнулі, дык гульнулі! Што называецца гульнулі! Ну, бывайце, пане каморнік! Трэба ісьці разбудзіць Антося ды зьвязываць клумкі, а то хутка прыбяжыць зноў той — „па загаду вусудара ампіратара..." (на сцэне рух бязустанку, адны прыходзяць, другія выходзяць. Дудар хаваецца за вугол Тумашовае хаты).

ЗЬЯВА 6-я.

**Тыя-ж без Дудара.**

**Ганулья** — (выбягае з хаты і падвязывае на бягу хустку. З трывогай да каморніка:) Паночку, вось кніжка майго Антося. Паглядзеце, калі ласка, ці яму трэба на вайну? (З трывогай глядзіць на каморніка, працягівае кніжку, рукі трасуцца ад узварушэньня).

**Каморнік**—(паглядзеўшы ў кніжку і аддаючы яе) Але, трэба...

**Ганулья**—(з плачам) Трэба?! А, Божа мой мілы, а Божа мой родны!... А мой Антоська... а мой даражэнькі!... а яго-ж там скалечаць,... а яго ж там заб'юць...

(Канец будзе).

# Чытайце і пашырайце нашу газэту.

нага, калі пакуль-што не фармальнага, злучэньня Аўстрыі з Нямеччынай будзе вырашана сама сабой. Але гэтая спрытная акцыя вядзецца з такім нячуваным у міжнародавым жыцьці цынізмам, што выклікала ўрэшце дыплёматычнае ўмяшаньне з боку вялікіх дзяржаў, сяброў Нямеччыны па славунаму „пакту 4-х". Але гэты „дыплёматычны крок", які па думцы Францыі павінен быў быць вельмі рашучым дый зробленым супольна ўсімі сябрамі „пакту 4-х": Англіяй, Францыяй і Італіяй, зусім ня ўдаўся. Мусоліні адмовіўся ад супольнае акцыі, заявіўшы, што Італія „ужо сама зрабіла Нямеччыне прыязную ў гэтай справе ўвагу". Англія так сама асобна ад Францыі зрабіла Нямеччыне праз свайго пасла далікатнае „напамінаньне" аб абавязку „трымацца трактатаў". Вось чаму—францускаму паслу нямецкі міністар замежных спраў адказаў з нячуванай рэзкасьцю, што „адносіны Нямеччыны і Аўстрыі датычаць толькі гэтых дзьвюх дзяржаў і—не датычаць іншых"...

**Разгром „Македонскае Арганізацыі".** Як ведама, дагэтуль Баўгарыя, ня гледзячы на зьмену ўрадаў, заўсёды падтрымлівала, яўна ці тайна, так-званую „Македонскую Рэвалюцыйную Арганізацыю", якая мела мэтай стварэньне незалежнае Македоніі. Баўгарыя заўсёды стаяла на тым гледзішчы, што рэальна дзеяльнасьць арганізацыі мусіць давясьці да адарваньня ад Югаславіі македонскіх зямель і злучэньня іх з Баўгарыяй. Македонская Арганізацыя, апэруючая дзеля свае слабасьці блізу выключна мэтадамі тэрору дый тым прычыняючая шмат клапотаў Баўгарыі на міжнародавым груньце, у апошнія часы—у зьвязку з агульнай палітычнай стабілізацыяй і, участцы, з паляпшэньнем узаемных адносінаў між Югаславіяй і Баўгарыяй—пачала траціць усялякі грунт пад нагамі. Датаго-ж у арганізацыі ўсьцяж ішла ўнутраная крывавая барацьба паміж дзьвюмя яе часткамі, раскладаўшая дый забіваўшая яе маральна і арганізацыйна. Цяпер дайшло ўрэшце да таго, што сам баўгарскі ўрад рашыў зьліквідаваць гэтую арганізацыю. Парлямант прыняў сьпешна ўрадавы праект закону аб надзвычайных мерах барацьбы з тэрорам, сталіца была аб'яўлена на асадным палажэньні, вобыскі і арышты сярод правадыроў і сяброў арганізацыі рашуча спынілі яе дзейнасьць.

Ці гэтым ваенна-паліцэйскім разгромам будзе пахавана ідэя незалежнасьці Македоніі,—сумліўна. У кожным выпадку лёс македонскага руху мае даволі многа мамэнтаў, цікаўных і навучальных і для нас, беларусаў....

**Масавы пералет праз акеан на самалётах.** Толькі што вярнулася дамоў эскадра з 23 італьянскіх самалётаў на чале з ген. Бальбо. Эскадра з Італіі праляцела — праз Англію і Ісляндыю — на поўнач Амэрыкі і адтуль у Нью-Іорк, а вярнулася дамоў праз Азорскія астравы. Гэта першы—рэкордны — пералёт цэлай эскадрай самалётаў праз акеан. У Італіі цяпер проста шалеюць ад гордасьці сваім паветраным флётам.

**Пераварот на востраве Куба.** На востраве Куба (паміж Паўночн. і Паўдзён. Амэрыкамі), які прадстаўляе сабой рэспубліку, фармальна незалежную, але фактычна падлягаючую сільнаму „кантролю" і „ўплыву" з боку магутнае „дзяржавы Даляра", выбухла паўстаньне проці прэзыдэнта Махады. Гэты прэзыдэнт страшэнна абурыў проці сябе народ тым, што, дайшоўшы да ўлады пры „падтрыманьні" з боку амэрыканскага ўраду, даў залішнюю ўжо волю ў краі амэрыканскім капіталістам, якія ўсьцяж вызысківалі край. Шалеючы і тутака крызіс дзеля таго асабліва цяжка адбіўся на Кубе: Амэрыка перастала купляць кубанскі цукер—галоўнае багацьце краю. Прэзыдэнт Махадо, які прасядзеў—проці звычаю—на сваім мейсцы ўжо больш, як два 4-лецьці, усьцяж павялічываў гвалты над народам, каб за ўсялякую цану ўтрымацца пры ўладзе. У апошнія часы — перад новымі выбарамі — ён увёў у краі ваеннае палажэньне, страшэнна ўсіліўшы тэрор проці „нездаволеных". І аднак гэты няўдалы дыктатар, трэба думаць, трымаўся-б яшчэ далей, калі б ён — дзеля ратаваньня свае апініі ў вачох народу—раптам не зьмяніў фронт і не пачаў агітаваць амаль не за вайну проці Амэрыкі, каб здабыць для Кубы поўную незалежнасьці, манючыся адыйграць у гэтай барацьбе ролю „нацыянальнага героя Кубы"! Але гэткая яўная правакацыя адразу вырашыла лёс дыктатара: да паўстаньня народу проці зьненавіджанага дыктатара зараз жа далучыўся... амэрыканскі даляр, які ня страціў, відаць, свае „пераконываючай сілы", ня гледзячы на спадак вартасьці. У выніку—дыктатар быў пакінены навет свае жандармэрыяй дый змушаны ўцякаць з краю. Уцёк ён на самалёце ў адну з бліжэйшых англійскіх колёніяў...

Уладу тымчасова ўзялі правадыры палітычных партыяў, якія высунулі новага прэзыдэнта Цэспэдэса.

**Новае наступленьне Японіі ў глыб Кітаю.** Пад відам барацьбы з бандытызмам і з камунізмам японскае войска ізноў распачала наступленьне ў глыб Манголіі. Манголія, пасьля разгрому ген. Фэнга, ня мае зусім абаронцаў, дык увесь край з сталіцай мае ў хуткім часе стацца здабычай Японіі.

**Перачытаўшы газэту — перадай другому.**

# Цікауныя і карысныя рэчы.

## У 8 дзён — навакол зямлі.

Ня так даўно ведамы францускі пісьменьнік Жюль Вэрн, які захапляў чытаючую моладзь усяго сьвету фантастычнымі раманамі, у адным з іх апісываў, як яго герой, каб выйграць за ўсялякую цану заклад, абляцеў стрымгалоў — карыстаючыся ўсімі даступнымі тады сродкамі камунікацыі — навакол зямлі ў 80 дзён. Гэта было з паўсоткі гадоў таму назад. Зразумела-ж, самалётаў тады яшчэ ня было. А вось цяпер толькі што амэрыканскі лятун Пост абляцеў на самалёце навакол зямлі ўсяго ў 7 дзён 18 гадзін 49 мінутаў. Пост, устанавіўшы гэты новы рэкорд хуткасьці лёту навакол сьвету, пабіў такім чынам самога сябе, бо-ж гэты свой лёт скончыў на 20 гадзін і 2 мін хутчэй, чым папярэдні.

Але на гэтым рэкордзе чалавек і яго тэхніка, зразумела, ня спыніцца. Нядаўна швайцарскі прафэсар Пікар, ведамы сваімі лётамі ў вышыню — на 16-17 кілёмэтраў — на спэцыяльна зробленым паветраным шары (аэростаце, напоўненым газам, які значна лягчэй за паветра), заявіў, што ў хуткім часе паветраная камунікацыя будзе адбывацца ў гэтых высокіх слаёх атмосфэры, дзе рэдкасьць паветра, а значыцца й слабы адпор яго самалёту дасьць магчымасьць разьвіць хуткасьць лёту да 1000 і больш кілёмэтраў у гадзіну. Найдаўжэйшы круг навакол зямлі ідзе ўдож экватару, які мае ўсяго каля 40.000 кілёмэтраў. Такім чынам, у хуткім часе можна будзе абляцець навакол усей вялізарнай зямлі менш, як у 2 дні.

Дзіва, што новай пародзе крылатых людзей зямля ўсё больш выдаецца залішне малой і цеснай... А мы ўжо пісалі аб тым, якія магчымасьці адчыняюцца перад імі з вынаходам новага прынцыпу мотору-ракеты, які можа ляцець нават у беспаветраным прасторы. Палёт на месяц дый на братнія плянэты нашае сонечнае сыстэмы перастае быць навуковай недарэчнасьцяй і ёсьць толькі чарговай задачай аэрапляннае тэхнікі.

### Перамога над праказай.

Адна з найстрашнейшых хваробаў, якія толькі ведаў чалавек на доўгім шляху свайго разьвіцьця, ведамая ўжо ў найдаўнейшыя часы (гл. у Біблії!), — гэта праказа. Яна дагэтуль не паддавалася ніякаму лячэньню, але цяпер, урэшце, здалася, зламалася перад усемагутным навуковым геніем чалавека і можа лічыцца пераможанай. Адначасна ў розных краёх знойдзены два способы барацьбы з ёй: індывідуальны і грамадзкі. Англійскі доктар вынайшоў сродак, які вылячыў ужо некалькі цяжка хворых на праказу. Але яшчэ важней тое, што другому вучонаму ўдалося ўрэшце знайсьці і адзяляць бактэрыю праказы, што не ўдавалася дагэтуль нікому. Таму цяпер адчыняецца магчымасьць лячэньня праказы шляхам прышчэпкі, як лечаць воспу, дыфтэрыт і інш. заразныя хваробы.

### „Сьветач сьвету“.

У часе міжнародавае выстаўкі ў Парыжы 1890 г. асаблівым „цудам тэхнікі“ лічылася так-зван. вежа Эйфэля. Збудаваная са сталі інжэнерам Эйфэлем, вежа гэная дагэтуль зьяўляецца найвышэйшым будынкам у сьвеце, бо-ж мае аж 300 мэтраў. Амэрыканцы мелі да сёлетняе выстаўкі ў Чыкаго збудаваць вежу, нават дзьве—па 600 мэтраў. Але скончылі на тым, што збудавалі вежы толькі па 600 стоп. Для выстаўкі, якая мае адбыцца ў Парыжы ў 1937 г., будуецца ўжо вежа вышнёй у 700 мэтраў, гэта значыць— больш за дзьве трацiны вярсты! Вежа робіцца з жалеза-бэтону. Навакол яе маюць ісьці два сьпіральныя (вінтом) шляхі для аўтамабіляў—адзін для ўезду нагару, другі—згары. На розных вышынях гэтае вежы будуць пабудаваны гасьцініцы, тэатры, кіно і г. д. На самай вяршыне будзе вялізарнае сілы электрычная лямпа; таму вежа мае называцца „сьветач сьвету“!

### Вялікія часопісы ў сьвеце.

Як ведама, шмат якія часопісы ў Эўропе і ў Амэрыцы разыходзяцца ў мільёнах эгзэмпляраў. Нядаўна апублікаваны лічбы выпуску некаторых буйнейшых часопісаў Эўропы і Амэрыкі. Вось пара гэтых лічбаў.

Найбольш пашыраным з часопісаў Англіі дый усяго сьвету ёсьць „Дэлі Экспрэс“, які ў чэрвені с. г. выпускаў па 2 мільёны 54 тысячы з лішкам эгз. у дзень. Другое па лічбе месца займае „Дэлі Гэралд“ (офіцыёз Мак-Дональда)—2 мільёны эгз. Найвялікшы колькасьцяй матэрыялу штодзенны часопіс у Англіі „Таймс“ („Час“) выходзіць толькі ў 460.000 эгз.

Найвялікшы тыраж з амэрыканскіх часопісаў мае газэта „Дэлі Ньюс“—1.410,900 эгз.

З францускіх часопісаў найбольш пашыраны: „Пті Парізьен“—1.750.000 эгз. „Журналь“—1.200.000 эгз., „Матэн—1 мільён.

---

**Рыначныя цэны ў Вільні.** 18 VIII. Жыта гурт. 2 зл., 20 гр. дэт. 2 зл. 50 гр. Ячмень гурт. 2 зл., 60 гр. дэт. 2 зл. 80 гр. Авёс гурт. 2 зл. дэт. 2 зл. 20 гр. Пшаніца гурт. 3 зл., 50 гр. дэт. 3 зл. 80 гр. Бульба стар. кілягр. 0,08 гр., дэт. 0,10 гр. Саланіна 1 зл. 80 гр. — 2 зл. Шмалец 2 зл. 20 гр.—2 зл. 40 гр. Масла прас. 2 зл. 90 гр. — 3 зл. 20 гр., масла гаспадар. 2 зл. 40 гр.—2 зл 80 гр. Яйкі 65-75—80-90 гр. Даляр 6 зл. 62 гр.

Рэдактар: М. СІНЯУСКІ.—Выдавец: ТБА. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22